*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 22 (77)* *8 - 14 ліпеня 1994 г.* *Кошт 300 рублёў*

*Народ прывучылі ўспрымаць сьвет на ўзроўні жывёльных інкстынктаў.*

*У выніку дзейнасьці пракуратуры безабаронным робіцца тое, дзеля чаго яна й створана...*

*Кіраўнік мітынгу адказвае за ягоны парадак і мее права даць голас кожнаму грамадзяніну.*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

## НАРОДНЫ ФРОНТ ВЫРАШЫЎ: ГАЛАСАВАЦЬ НЯМА ЗА КАГО

Другога ліпеня ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Ён быў прысьвечаны аналізу вынікаў I туру выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, выпрацоўцы тактыкі Народнага Фронту ў гэтай выбарчай кампаніі.

У выніку дыскусіі ўдзельнікі Сойму распрацавалі праграму дзеяньняў Народнага Фронту на бліжэйшы час. У прыватнасьці, адзначалася, што па-ранейшаму мы павінны кантраляваць ход выбараў, самі не прымаючы ў іх удзел. Асноўны аргумэнт на карысьць такога рашэньня - у цэлым па Беларусі гэта найбольш аптымальны варыянт прыпыніць шэсьце да безкамрамісінай улады прадстаўнікоў старой і новай камуністычнай намэнклатуры - Кебіча й Лукашэнкі.

Сойм зьвярнуў увагу на неабходнасьць умацаваньня ўжо існуючых структураў Фронту, стварэньня групаў падтрымкі ў кожным раёне. Гэтая задача тым больш актуальная, таму што наперадзе выбары ў Вярхоўны Савет.

Адзінагалосна былі прыняты Звароты "Да выбаршчыкаў" і "Да 50-х угодкаў вызваленьня Беларусі з-пад фашыстоўскай акупацыі". Сойм таксама даручыў Управе ўтварыць аргкамітэт па правядзеньню II Усебеларускай канфэрэнцыі некамуністычных антыімпэрскіх сілаў.

**М.ТУРАВЕЦ.**

## ЗВАРОТ
### Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»
## ДА ВЫБАРШЧЫКАЎ

Шаноўныя суграмадзяне!

Вынікі першага туру прэзідэнцкіх выбараў у нашай краіне засьведчылі палітычны крах намэнклатурна-мафіёзнага прамаскоўскага рэжыму Кебіча. Насуперак зацятай прапагандзе, насуперак адміністрацыйнаму ціску й адкрытаму запалохваньню абсалютная большасьць выбаршчыкаў прагаласавала супраць урадавай кандыдатуры.

Але шмат людзей, зразумеўшы згубнасьць палітыкі Кебіча і яго ўраду, тым не менш не аддалі галасы за стваральны, канструктыўны шлях выйсьця Бацькаўшчыны з крызісу, а пайшлі за папулістычнаю фразаю і скандальнай папулярнасьцю А.Лукашэнкі. Нашыя суграмадзяне не змаглі разгледзець за крыклівымі абяцанкамі Лукашэнкі тую ж самую мафіёзную намэнклатуру, толькі маладзейшую й больш агрэсіўную. У выпадку выбраньня Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта Беларусі прадоўжыцца развал эканомікі, будзе працягвацца здача незалежнасьці нашай краіны на карысьць расейскай і беларускай мафіі.

Народны Фронт выступае як супраць Кебіча, так і супраць Лукашэнкі. Надаць прэзідэнцкія паўнамоцтвы кожнаму з іх - значыць, аддаць Беларусь ва ўладу дыктатуры мафіі. Найлепшым выйсьцем для дабра нашай краіны была б адмова ад выбараў Прэзідэнта й неадкладныя выбары ў Вярхоўны Савет на падставе новага дэмакратычнага выбарчага закону.

У другім туры выбараў мы ня будзем галасаваць ані за старую, ані за новую намэнклатуру. Народны Фронт ня пойдзе на гэтыя выбары бяз выбару, якія падштурхоўваюць Беларусь да прорвы.

Мы ўдзячныя ўсім грамадзянам, якія галасавалі за кандыдата народнай апазыцыі, Старшыню Беларускага Народнага Фронта Зянона Пазьняка. Выбарчая кампанія паказала, што толькі Народны Фронт мае канструктыўную праграму пабудовы нашай дзяржавы й выйсьця з эканамічнага крызісу. Фронт і яго прыхільнікі - гарант незалежнасьці Беларусі й дэмакратычных зьменаў у грамадзтве. Наперадзе - наступныя выбары, і мы ўпэўнены ў канчатковай перамозе здаровага сэнсу й маральнай палітыкі - у перамозе Народнага Фронту. Жыве Беларусь!

**2 ліпеня 1994 г.**
**г.Менск**



Прыціхнуў дзень у заімглёнай скрусе,
Прымоўк крынічак векавечны звон
І почутка па зьніклай Беларусі:
"Прайграў Зянон, прайграў,
Прайграў Зянон."

Прайграў Зянон, расьпяты на бязьвер'і,
На хамстве, п'янстве і душэўнай цьме,
На рабскай настальгіі па імпэрыі,
На памяці аб вітым бізуне.

Як той Хрыстос нёс новую рэлігію,
Так нёс ідэі нацыі Зянон,
Але ідэі не патрэбны быдлу,
Яму патрэбны пуга і загон.

Яму карыта трэба з каўбасою,
А то і з пацяруахо якой.
І сам Хрыстос, хоць з сілаю сьвятою,
Прайграў бы ў сітуацыі такой.

І доўга Жля над беднаю краінай
Разносіць будзе гэты змрочны сказ,
Пакуль не дойдзе кожнаму праз сьпіну,
Што не Зянон прайграў на гэты раз.

Зянон жывы і жыць надалей будзе
І дасьць магчымасьць зразумець, адчуць,
Прайграў не ён, а вы прайгралі, людзі,
Прайграў народ, прайграла Беларусь.

**Станіслаў СУДНІК**

## ЗНОЎ САЮЗ?

Садружнасьць Незалежных Дзяржаў павінна трансфармавацца ў Саюз Незалежных Дзяржаў, заявіў 22 чэрвеня ў Дзярждуме Расеі першы намесьнік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Вячаслаў Кузьняцоў. На яго думку, неабходна заключыць новую, больш шырокамасштабную дамову паміж Расейскай Фэдэрацыяй і Рэспублікай Беларусь, таму што агульныя праблемы могуць быць вырашаны толькі шляхам эканамічнай і палітычнай інтэграцыі. Кузьняцоў выказаўся за прыняцьце парлямэнтам дзьвюх рэспублік закона аб двайным грамадзянстве.

**І.ПЯТРОЎ.**

## ВЫБАРЫ БЯЗ ВЫБАРУ

**Праз некалькі дзён выбары. Каго выбраць першым прэзідэнтам Беларусі - Кебіча ці Лукашэнку? Так склаўся лёс, што я вельмі добра ведаю асобу й дзейнасьць Кебіча, бо пастаянна сутыкаўся з яго справамі як дэпутат РБ. А з Лукашэнкам я працаваў у камісіі, што павінна была выявіць прычыны карупцыі й прапанаваць шляхі барацьбы з ёй... І, калі вы ня супраць, я вам раскажу аб тым, чаго вы ня ведаеце, дапамагу зарыентавацца ў сітуацыі.**

У 1989 годзе мною й маімі сябрамі былі праведзены рассьледаваньні па фактам злоўжываньня кіруючымі камуністамі Беларусі пры атрыманьні кватэр у Менску. Сьпіс 26-ці карупцыянэраў, што хапнулі без чаргі кватэры плошчай па 150 квадратных мэтраў карыснай плошчы кожны, мы перадалі ў пракуратуру. У той жа час натрапілі на віскулёўскі рай, дзе ў адпаведнай Белавежскай пушчы пад ахоўай КДБ і міліцыі пілі й гулялі камуністычныя зубры. Камісія па прывілеях, у якую я тады ўваходзіў, дамагалася спыненьня белавежскіх оргіяў за народны кошт.

Ужо тады я вельмі добра зразумеў сэнс сенсных сувязяў і "дружбы" нашых карупцыянэраў з расейскімі. У прадстаўніцтве Беларусі ў Маскве намі быў знойдзены браніраваны трохпавярховы прытулак. Усе апартамэнты належылі двум пэрсонам - першаму сакратару ЦК КПБ і яго вернаму паплечніку па кампартыі Старшыні Прэзідыума ВС БССР. Выходзіць, што сэнс вельмі просты: вы нам у Віскулях, , а мы вам - у Маскве...

**(Заканчэньне на 2-й ст.).**

## НЯ ТРЭБА НІ ТАГО, НІ ДРУГОГА!

**Дзіўная рэч адбываецца з высновамі, якія зрабіла "партыя ўлады" пасьля пагромных для яе выбараў прэзідэнта РБ у першым туры. Прыціхла рыторыка, няма абгрунтаванага аналізу падзей. Здаецца, барацьба скончана й каб хутчэй скончыць "справу", другі тур прызначаны на 10 ліпеня. Сапраўды, не пасьпееш і дух перавесьці, а ўжо прысьпяшаюць да астатняга, ці не фармальнага, акту...**

Толькі ці дзіўна гэта? І "барацьбіт" Лукашэнка, і "прафэсіянал" Кебіч належаць да адной і той жа плыні кіраўнікоў, узгадаваных нашым партыйна-бюракратычным мінулым. У іх праграмах няма прынцыповых адрозьненьняў. Іх барацьба мае ўнутраны, фракцыйны характар, зусім не зьвязаны з лёсам беларускай дзяржавы і яе народу. Абодва яны цягнуць нас да "Северо-Западного края", да былога прыгнечанага стану ў рамках Расейскай Імпэрыі. Ці не забыліся кандыдаты ў прэзідэнты, гаворачы пра стратэгічныя імкненьні ўсходняга накірунку, аб тым, што "Расея - гэта турма народаў" і хто аўтар гэтай фразы?

Тым выбаршчыкам, якія яшчэ не зразумелі, што нас чакае пры перамозе Лукашэнкі ці Кебіча, трэба мець на ўвазе, што пры гэтых прэзідэнтах мы страцім тое, што даў нам Бог і наш цяжкі лёс - вольнасьць, права выбіраць начальнікаў і сяброў, працаваць на сябе, ствараць нашу будучыню, выхоўваць сваіх дзяцей, права "людзьмі звацца".

Быць на "задворках вялікай супэрдзяржавы"? Ці не праходзілі мы ўсё гэта раней?

Няўжо захацелася нашым жанчына, каб іх дзеці гінулі ў Таджыкістане, у Абхазіі, Інгушэціі, каб на іх палявалі людзі іншых народаў шматнацыянальнай і выбухованебясьпечнай Расеі.

Можа, усё ж такі паберажэмся ад такіх кандыдатаў у Прэзідэнты?! У такіх выпадках рахманы беларус заўсёды казаў: "Быка альбо індыка? Ня трэба ні таго, ні другога".

**Міхась ЯВАР.**

# ВЫБАРЫ БЯЗ ВЫБАРУ

**(Пачатак на 1-й ст.).**

Пасьля нашай "экскурсіі" ў гэты намэнклятурны Садом студэнткі-масажысткі, якія там, мякка кажучы, працавалі, селі за парты, а гатэль адчыніў дзьверы й для простых сьмяротных. Расказваю пра ўсё гэта яшчэ й таму, што факты гэтыя амаль невядомыя, бо камуністычная прапаганда адфільтроўвала інфармацыю... Зрэшты, як і цяпер. Нягледзячы на наяўнасьць такіх атрыбутаў цывілізацыі, як тэлебачаньне, радыё, газэты, мала хто ведае, што ў той час сёньняшнія кандыдаты ў прэзідэнты былі сябрамі камуністычнай намэнклятуры. Кебіч - як член бюро ЦК КПБ, а Лукашэнка - як інструктар палітаддзела, сакратар камітэта камсамола, сакратар парткама калгаса імя Леніна... Затое ўсе ведаюць, што ва ўсіх краінах, дзе ва ўладзе камуністы, заўсёды пануе галеча, жабрацтва, тэрор і карупцыя. І гэта невыпадкова, таму што ў Саветы, як у аснову камуністычнай палітычнай сістэмы, закладзены карупцыйны мэханізм. Нагадаю вядомы выраз Леніна: "Саветы самі прымаюць рашэньні, самі выконваюць і самі кантралююць." Такая схэма ў беларускім варыянце выглядае так: Кебіч і яго большасьць у Вярхоўным Савеце прымаюць рашэньні, падначаленыя Кебічу ў выканкамах выконваюць гэтыя рашэньні, а Лукашэнку даручылі кантраляваць. Такая сітуацыя не магла не прывесьці да татальнай карупцыі на Беларусі.

Вось толькі адзін прыклад: прапанову Апазіцыі аб увядзеньні сваёй валюты большасьць адхіляла запар чатыры гады. Зразумела, чаму. Адсутнасьць уласнай валюты дазваляла набліжаным да фінансаў чыноўнікам узбагачацца. Асноўнай крыніцай гэтага ўзбагачэньня зрабілася інфляцыя (амаль 50% у месяц), а таксама ўвядзеньне спэкулятыўных курсаў беларускіх "зайцоў" да замежных валют. Пры тым Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь быў пазбаўлены магчымасьці ўзьдзейнічаць на сітуацыю. Больш таго, пасьля таго, як старшыня Нацыянальнага банку Багданкевіч на сесіі ВС выступіў з рэзкай крытыкай такой палітыкі Ўрада й Вярхоўнага Савета, намэнклятура, выкарыстаўшы Лукашэнку, вырашыла адхіліць Багданкевіча ад займаемай пасады.

Фокус з выкарыстаньнем "змагара" ў якасьці дубіны супраць няўгодных намэнклятура паўтарала неаднаразова. Нагадаю вядомы Адкрыты ліст старшыні КДБ Шыркоўскага й міністра ўнутраных справаў Ягорава, у якім яны папярэджвалі дэпутатаў аб росквіце карупцыі ў вышэйшых эшалонах улады. І зноў Лукашэнка падрыхтаваў пастанову аб адхіленьні Шыркоўскага й Ягорава ад займаемых пасад...

У 1991 годзе большасьць Вярхоўнага Савета прыняла закон "Аб абароне спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь". Апазіцыя выступіла супраць, таму што па гэтаму закону ўсе правы на вываз тавараў за мяжу даваліся чыноўніку, які мог ці дазволіць, ці забараніць такі вываз. Пасьля прыняцьця гэтага закона пакацілася лавіна хабару ў кішэні тых, хто даваў ліцэнзіі. Гэта была новая магутная крыніца карупцыі, якую сьвядома парадзіла большасьць Вярхоўнага Савета разам, канешне, з Кебічам і Лукашэнкам.

Усім вядомыя ваяжы Кебіча й Лукашэнкі ў Маскву. Але амаль ніхто ня ведае, чым яны там на самой справе займаліся. Калі адкінуць ідэялагічную завесу афіцыйных паведамленьняў, то мы ўбачым звычайную для камуністаў цынічную зьдзелку, здачу дзяржавы разам з нетрамі, маёмасьцю, людзьмі. Гэты акт вышэйшай палітычнай карупцыі намэнклятура дэмагагічна прадставіла як пагадненьне аб адзінай рублёвай зоне. Памятаеце, Кебіч біў сябе ў грудзі: "З 1 студзеня 1994 года абмен грошай будзе адзін да аднаго. Гэта аб'яднаньне - мэта майго жыцьця." А ў газэце "Советская Белоруссия" з уласьцівым толькі яму натхненьнем Лукашэнка тады заявіў: "Одним из таких шагов стало соглашение о единой рублёвой зоне. По-моему, это величайшая заслуга белорусской делегации во главе с Кебичем." І далей на сесіі... "Только за одно за это Кебичу можно при жизни поставить памятник."

Гэтыя выказваньні вядомыя, але амаль ніхто ня ведае, што разам з афіцыйным тэкстам пагадненьня аб адзінай рублёвай зоне, як і пры сумна вядомым пакце Молатава-Рыбентропа быў заключаны цэлы шэраг сакрэтных пагадненьняў, якія тычыліся разьмеркаваньня маёмасьці паміж расейскімі й беларускімі мафіёзнымі кланамі. Прывяду адзін такі дакумэнт: "Соглашение о вхождении государственного предприятия "Белтрансгаз" в состав российского Газпрома." У адпаведнасьці з гэтым дакумэнтам кошт усёй інфраструктуры газавай гаспадаркі разам з газапровадамі склаў 1 мільярд 217 мільёнаў рублёў (Сапраўдны кошт прадаваемай маёмасьці - 8 мільярдаў даляраў). Зразумела, чаму пра гэта маўчалі Кебіч і Лукашэнка - асабіста яны праводзілі перамовы, а Кебіч яшчэ й падпісваў гэты дакумэнт. І толькі ўмяшальніцтва апазіцыі пакуль што прыпыніла гэтую зьдзелку...

Самыя вялікія страты дзяржаве прыкрываюцца самай вялікай хлусьнёй і дэмагогіяй. Успомніце: дрэнна жывем з-за разрыву сувязяў, заводы стаяць з-за адсутнасьці калектыўнай бясьпекі, няма нафты - вінаваты сувэрэнітэт і г.д. А пад шум гэтай прапагандысцкай траскатні намэнклятура ўстанавіла такія сувязі з расейскай мафіяй, якія ўжо прывялі да поўнага разбурэньня многіх прадпрыемстваў Беларусі. Напрыклад, страты, панесеныя ў выніку клірынгу, склалі для МАЗа 49 млрд.руб., МТЗ - 69 млрд.руб., завода халадзільнікаў - 135 млрд.рублёў.

Складаецца ўражаньне, што разбураюць эканоміку сьвядома, каб потым за бясцэнак скупіць маёмасьць. Таму цяпер прапануецца ідэя аб падвоеным грамадзянстве, а хор урадавых плакальшчыкаў скуголіць: "Без Расеі прападзём!" У гэтай дэмагагічнай каманьдзе два асноўныя салісты - сёньняшнія кандыдаты ў прэзідэнты. Прачытайце інтэрв'ю ў газэце "Праўда" Лукашэнкі "Да возродится!" і выступ Кебіча ў "Советской Белоруссии" і вы са мной, пагодзіцеся. Продаж дзяржавы - ёсьць галоўная ідэялагічная крыніца, якая сілкуе карупцыю і карупцыянэраў. Гледзячы на сваіх кіраўнікоў, што гандлююць дзяржавай, іх падначаленыя таксама не саромеюцца. Адны гандлююць краінай, другія - мэталам, нафтай, машынамі й г.д.

На працягу 1990-1994 г.г. мы, дэпутаты БНФ, прадставілі Вярхоўнаму Савету й грамадзтву сотні доказаў карупцыйнай дзейнасьці ўраду Кебіча. Выяўлены прычыны, прапанаваны мэтады барацьбы з карупцыяй. І, як вынік шматгадовай дзейнасьці, распрацавалі пастанову й прапанавалі яе Вярхоўнаму Савету. Вось тэкст праекта гэтай пастановы.

## ПАСТАНОВА

Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вынікам працы Часовай камісіі, Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вывучэньню дзейнасьці камэрцыйных структураў, створаных пры ворганах улады й кіраваньня.

Улічваючы наяўнасьць шматлікіх парушэньняў заканадаўства Рэспублікі Беларусь падчас зьдзяйсьненьня фінансава-гаспадарчай дзейнасьці з боку камэрцыйных і дзяржаўных структураў, фактаў антыдзяржаўнага пратэкцыянізма, выкарыстаньня службовага становішча ў мэтах асабістага прыбытку з боку супрацоўнікаў ворганаў дзяржаўнай улады й кіраваньня, у тым ліку й прадстаўнікоў вышэйшага воргана выканаўчай улады, - Вярхоўны Савет пастанаўляе:

1. Вызваліць В.Ф.Кебіча ад пасады Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у сувязі з непрыняцьцем мераў, неабходных для перасячэньня злоўжываньняў у ворганах дзяржаўнага кіраваньня, дапушчэньня працэсу карупцыі, што давяло да страты кіруемасьці дзяржавай, значнага паніжэньня жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва.

2. Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевічу ў 3-хдзённы тэрмін прапанаваць кандыдатуру на пасаду Старшыні Савета Міністраў.

3. Кантрольнай палаце зарганізаваць аўдытарскую праверку фінансава-гаспадарчай дзейнасьці ўсіх дзяржаўных і камэрцыйных структураў, якія скарыстоўваліся ўрадам В.Ф.Кебіча для вядзеньня зьнешнегандлёвай дзейнасьці за пэрыяд 1991-1993 г.г.

4. МУС, КДБ, Пракуратуры прадставіць інфармацыю пра замежныя паездкі супрацоўнікаў ворганаў улады й кіраваньня, у тым ліку супрацоўнікаў Савета Міністраў і іх родных, якія фінансаваліся за кошт недзяржаўных структураў.

5. Кантрольнай палаце, Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь да 10 сакавіка 1994 года правесьці праверку эфэктыўнасьці ўкладаньня дзяржаўных сродкаў у заснавальніцкія фонды камэрцыйных банкаў.

6. Кіраўніцтву МУС у адпаведнасьці з заключанымі Рэспублікай Беларусь міжнароднымі пагадненьнямі зьвярнуцца ў міжнародныя спэцыялізаваныя ўстановы з просьбай даць інфармацыю пра існуючыя валютныя рахункі, а таксама нерухомасьці, набытай фізычнымі й юрыдычнымі асобамі Рэспублікі Беларусь.

7. Абавязаць усіх дзяржслужачых на працягу аднаго месяца даць ў падаткавую інспэкцыю па месцы жыхарства дэклярацыю аб прыбытках.

8. Камісіям Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць на працягу месяца ўдакладненьні да дзеючых законаў, у якіх адлюстраваць наступныя канцэптуальныя пункты:

а) наўмыснае ўкрываньне фізычнай ці юрыдычнай асобай свайго прыбытку ад падатку зьяўляецца цяжкім злачынствам перад дзяржавай;

б) выяўленыя факты пратэкцыянізма на карысьць недзяржаўных структураў кіруючай асобай цягнуць за сабой тэрміновую адстаўку гэтай кіруючай асобы;

в) калі кіруючая асоба ці група кіруючых людзей прынялі рашэньне, якое прывяло да эканамічнага ўрону Рэспублікі Беларусь, то такія дзеяньні павінны даводзіць да абавязковай адстаўкі кіруючых асобаў, а таксама да матэрыяльнага спагнаньня ў аб'ёме поўнай кампэнсацыі вінаватым у нанесенай страце; г) экспарт і імпарт тавараў у Рэспубліцы Беларусь павінен рэгулявацца з дапамогай мытных падаткаў, пры гэтым павінны быць адменены ўсе віды ліцэнзаваньня;

д) увесьці крымінальную адказнасьць для кіруючых асобаў за адзіначасны ўдзел у ворганах улады й кіраваньня і камэрцыйных структурах;

е) унесьці прапановы па пытаньню ўвядзеньня нацыянальнай валюты.

9. Улічваючы вялікі памер злоўжываньняў пры правядзеньні прыватызацыі, стварыць грамадзкую камісію па кантролю за працэсам прыватызацыі з прадстаўнікоў афіцыйна зарэгістраваных прафсаюзаў.

10. Ануляваць усе незаконныя зьдзелкі па прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнасьці, зьдзейсьненыя ў пэрыяд 1990-1993 г.г. Вернутую такім чынам маёмасьць прадаць з аўкцыёна. Выручаныя сродкі накіраваць у пэнсійны фонд.

11. Саветы й выканкамы, якія парушалі ці спрыялі парушэньням Закона падчас прыватызацыі, ігнаравалі сваімі дзеяньнямі інтарэсы працоўных калектываў, падлягаюць роспуску адразу пасьля ўнясеньня пратэсту Пракуратурай па выяўленым парушэньням. Камісіі В.К.Леўчыка падрыхтаваць папраўкі да Закону "Пра мясцовае самакіраваньне".

12. Забараніць мясцовым Саветам адчужаць ворную зямлю пад мэты, не зьвязаныя з вытворчасьцю сельгаспрадукцыі. Ануляваць такія дамовы, заключаныя ў пэрыяд 1991-1993 г.г.

13. Забараніць продаж зямельных надзелаў у прыватную ўласнасьць, выдзяленьне пад пабудову катэджаў зямлі ў зонах адпачынку, водаахоўнай зоне, а таксама надзелаў, атрыманых з парушэньнем закону й з выкарыстаньнем службовага становішча. Устанавіць падатак на карыстаньне такім надзелам у памеры 10% ад іх рынкавай цаны. У выпадку немагчымасьці выплаты падатку карыстальнікам дзяржава анэксуе надзел з выплатай дакумэнтальна падцьверджаных выдаткаў на будаўніцтва катэджу.

14. Увесьці кару ў памеры 100 мінімальных месячных выплат на грамадзян, якія пры атрыманьні надзелаў мелі падложныя паперы.

15. У выпадку значных парушэньняў Закона Рэспублікі Беларусь пры будаўніцтве катэджаў вінаватыя вымушаны панесьці адміністратыўную ці крымінальную адказнасьць. Сам катэдж адыходзіць на карысьць дзяржавы.

16. Саветам усіх узроўняў правесьці нечарговыя сесіі, на якіх разгледзець пытаньне аб матэрыяльнай і маральнай адказнасьці дэпутатаў, якія, карыстаючыся службовым становішчам, атрымлівалі па-за чаргі ці па зьніжаным коштам кватэры, легкавікі, зямельныя надзелы. Праваахоўным ворганам узбудзіць крымінальную справу ў адносінах да кіруючых асобаў, улічаных у карупцыі і другіх службовых злоўжываньнях.

17. Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаньнях нацыянальнай бясьпекі, абароны й барацьбы са злачыннасьцю ўнесьці прапанову па стварэньню дзяржкамісіі па барацьбе з карупцыяй з прадстаўнікоў КДБ, МУС, Пракуратуры, Кантрольнай палаты кантролю. Склад зацьвердзіць Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з вышэйзложаным, лічыць функцыі Часовай камісіі па вывучэньню дзейнасьці камэрцыйных структураў пры ворганах улады й кіраваньня вычарпанымі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**С.С.ШУШКЕВІЧ**

У той час, калі антыкарупцыйнага салаўя Лукашэнку рэклямавалі праўрадавыя газэты, радыё й тэлебачаньне, нашу пастанову замоўчвалі. Сам зьмест гэтай пастановы адказвае на пытаньне, чаму гэта рабілася. Як вы й здагадваецеся, за гэтую пастанову прагаласавала толькі апазыцыя. Але, нягледзячы на гэта, 15.04.94 г. мною было пастаўлена пытаньне на сесіі Вярхоўнага Савета аб адстаўцы Кебіча. І тут нечакана супраць гэтага, амаль што з істэрыкай, выступіў Лукашэнка. Цытую: "Прошу вас, большинство в этом зале, не втягивайтесь в эти игры. Они же вас втягивают вплоть до поимённого голосования, чтобы читать на выборах эти списки. Пусть кричат, говорят, предлагают. А мы будем голосовать... на эти выпады этой несчастной оппозиции. Дай Бог, чтобы вы вечно были опозицией!"

Седзячы ў зале, я зразумеў: мы замахнуліся на яго патрона. Іронія лёсу ў тым, што цяпер гэтыя сіямскія намэнклятурныя блізьняты сталі непрымірымымі ворагамі. Нічога дзіўнага ў гэтай мэтамарфозе няма: улада заўжды рабіла камуністаў агрэсіўнымі. Успомніце: у 20-х - 40-х гадах рэпрэсіўная камуністычная машына паглынала й сваіх паплечнікаў. Гісторыя паўтараецца, але ўжо як фарс. Сёньняшнія сябры па партыі ўлады не прабіваюць адзін аднаму галаву сякерай, як калісьці Троцкаму ў Мэксіцы. Усё прымітыўней і камічней. Яны пэцкаюць адзін аднаму касьцюм ваксай, рвуць гузікі й міліцэйскія пагоны...

Але для нашага грамадзтва гэты фарс ня робіцца менш небясьпечным, бо вынікам яго, незалежна ад вынікаў галасаваньня, робіцца пананаваньне ў грамадзтве лукашызму як беларускага варыянту жырыноўшчыны. Гэтую зьяву ў мастацкай форме бліскуча адлюстраваў выдатны рускі пісьменьнік Булгакаў у сваім несьмяротным творы "Сабачае сэрдца". Ён быццам прадбачыў, што нам калісьці прыйдзецца выбіраць паміж Швоньдзерамі й Шарыкавымі. Лукашызм узьнік невыпадкова: яго песьціла савецкая ўлада амаль 76 гадоў. А ўрадавыя сродкі масавай інфармацыі стварылі ўнікальныя ўмовы для лукашызацыі ўсёй краіны. Сродкі масавай інфармацыі бесьцілі й замоўчвалі эканамічныя праграмы й тэхнічныя праэкты Беларускага Народнага Фронту, зьдзекваліся з фронтаўскіх спэцыялістаў, прызнаных усім сьветам. Мараль народа, культуру, што назапашвалася стагоддзямі, ператварылі ў мішэнь для зьдзекаў. Расьследаваньні Фронтам прычын і мэханізмаў карупцыі рэдактары клалі пад сукно, затое лукашызмамі запаўнялі старонкі газэт, тэлерадыёэфір. Народ, як жывёлу, прывучылі ўспрымаць сьвет, у тым ліку й палітыкаў, на ўзроўні жывёльных інстынктаў. Пры гэтым песьцілі ў людзей самыя пачварныя пачуцьці, якія нават і неўласьцівыя жывёльнаму сьвету. Народ прывучалі да імітацыі барацьбы з карупцыяй. І вось "народ созрел"...

"Пишут, пишут... Конгресс, немцы какие-то, голова пухнет. Взять всё, да и поделить..."

"Как бы над нами не смеялись, что мы не интеллектуальные, такие-сякие, но сегодня время представителей народа."

"Реформировать будем по мере того, как жизнь поставит вопросы."

"Изменение ситуации по-прежнему не в смысле стабилизации положения, а в смысле сохранения тенденции к его катастрофическому ухудшению."

"Я здесь не впадаю в прострации и амбиции."

"Я - нищий!"

Ну як, паважаныя чытачы, вы разабраліся, дзе выказваньне Швоньдзера, Лукашэнкі, Шарыкава, Кебіча? Ці не здаецца вам, што з такімі прэзідэнтамі мы ўсе станем "ніщімі". У нас украдуць нават дзяржаву.

Міністар замежных спраў Расеі Козыраў назваў людзей, якія хочуць здаць нават кавалачак расейскай зямлі, "политическими ублюдками". Як жа будуць адносіцца да нас расейцы й іх кіраўніцтва, калі мы абярэм прэзідэнта, які сэнсам свайго жыцьця зрабіў здачу дзяржавы? Як будуць паважаць нашага прэзідэнта расейцы, калі ён марыць на каленях упаўзьці ў Расею? Якімі людзьмі пры гэтым мы будзем звацца?

**Сяргей АНТОНЧЫК,**
**рабочы завода Белвар,**
**старшыня Рэспубліканскага стачкама,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

**P.S.: Дарэчы, апошнія заявы Лукашэнкі спрошчваюць для мяне праблему раскрыцьця ягонай сутнасьці. Ён заявіў, што "я не намерен ничего сегодня ломать". Намэнклятура, якую Лукашэнка паабяцаў не чапаць, ужо пабегла з карабля палітычнага банкрута-бацькі да больш нахрапістага палітычнага нашчадка.**

**У адказ на гэта Кебіч пасьпяшаўся падпісаць у Заслаўі з Чарнамырдзіным дагавор аб продажы Беларусі...**

**Камуністычны шабаш на Беларусі працягваецца.**

ЗВАРОТ

Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

# ДА 50-Х УГОДКАЎ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСІ З-ПАД ФАШЫСТОЎСКАЙ АКУПАЦЫІ

Шаноўныя суайчыньнікі!

У шматпакутнай гісторыі Беларусі 50 год таму адбылася вызначальная падзея. Закончылася чарговая акупацыя нашай зямлі, на гэты раз - фашыстоўская; закончылася для беларускай зямлі самая безчалавечная ў гісторыі вайна.

Тую вайну разьвязалі два таталітарныя імпэрскія рэжымы - нямецкі фашыстоўскі й савецкі камуністычны - за перадзел сьвету й паняволеньне народаў. Народы Эўропы і іншых кантынэнтаў змагаліся ў Другой сусьветнай вайне за свабоду й незалежнасьць сваіх дзяржаваў, за перамогу дэмакратыі й агульналюдзкіх каштоўнасьцяў, за тое, каб таталітарызму ва ўсіх ягоных праявах прыйшоў канец.

Беларускі народ панёс у XX стагоддзі невымерныя ахвяры. Камуністычны генацыд Курапатаў зьмяніўся гітлераўскім генацыдам Трасьцянцоў і Хатыняў. Але беларусы мужна змагаліся супраць акупантаў - за жыцьцё, за свабоду, за незалежнасьць Бацькаўшчыны. Змагаліся пад рознымі сьцягамі. Змагаліся ў партызанах, у беларускім нацыянальным падпольлі. Урэшце, змагаліся, застаючыся самімі сабой і вытрываўшы, выжыўшы на гэтай пакутнай зямлі. І мы помнім усіх палеглых, мы смуткуем па ўсіх бязьвінных ахвярах.

Віншуем вас з юбілеем, дарагія суграмадзяне. І запэўніваем: Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", усьведамляючы сябе рэальнаю сілай, адказнай за лёс Бацькаўшчыны, зробіць усё, каб больш ніколі ў гісторыі наша Беларусь не спазнала гора вайны.

**2 ліпеня 1994 г.**
**г.Менск**



# НАВАТ СЬВЯТА НЕ АБ'ЯДНАЛА

Гучаў вайсковы аркэстр, строіліся на Савецкім пляцы Горадні шыхты, каб ушанаваць 50-гадовы юбілей вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Шэсьце было нядоўгім. У ім яскрава вызначыліся дзьве групы: адна - пад чырвонымі сярпаста-малаткастымі штандарамі, другая - пад дзяржаўнымі бел-чырвона-белымі сьцягамі. Групы былі прыблізна роўнымі па колькасьці. Таму й занялі ля Вечнага агню на брацкай магіле Старога парку кожная сваю палову. Мала-памалу народ зьбіраўся. Пад чырвонымі сьцягамі сівагаловыя ветэраны, пад бел-чырвона-белымі - моладзь. Калі ж, нарэшце, да групы з "кумачовымі знамёнамі" далучылася група, што ўскладала кветкі на вайсковых могілках, "сьвяткаваньне" распачалося.

Уступнае слова ўзяў намесьнік старшыні гарвыканкама спадар Аляксандр Мілінкевіч. Ён распавёў прысутным аб войнах, што адбыліся на нашай зямлі, і аб тых страшэнных стратах, што панесла наша Бацькаўшчына. Трымалі слова палкоўнік Васільеў і маёр Арцём'еў, а таксама супрацоўніца гарвыканкаму па справах моладзі спадарыня Дзьмітрыева. На жаль, іх прамовы, як зазначыў адзін з прысутных, нагадвалі дрэнную гульню пры выдатным надвор'і.

Пасьля хвіліны маўчаньня й салюту пачалося самае галоўнае - ускладаньне вянкоў. Найперш гэта было дазволена генэралам і палкоўнікам, затым - ветэранам і прадстаўнікам вытворчых прадпрыемстваў Горадні, і толькі потым - дэмакратычным арганізацыям горада. Вянкі й кветкі да брацкай магілы ў гэты дзень усклалі гарадзенская суполка БНФ, філія БСДГ, сябры БЗВ, альтэрнатыўная арганізацыя ветэранаў Горадні.

Адзін ветэран, заўважыўшы такое, галосна дамагаўся выкінуць гэтае "полицейское отродье". Яго ўсчувалі іншыя, а ён галасіў, што толькі ім, тым, хто пад сьцягам Леніна здабываў перамогу, належыць выказваць пашану загінуўшым.

**Г.АСТРОЎСКІ.**
**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**



# КЕБІЧ - «ПАТРЫЁТ»

Будуе Кебіч на руінах
Пост прэзідэнта ў краіне,
Сабе пасаду атрымаць,
А іншых у куток загнаць.
Што дэмакратыя, свабода,
Такія словы - толькі мода,
Давай яму застойны час,
Каб з каранямі зьнішчыць нас.
І каб сядзелі ўсе ў ціша,
Нібы пад венікам тым мышы.
Ў мазгах ягоных настальгія:
"Как хорошо было с Россией",
І кракадзілавы лье сьлёзы,
Нібы вясной той сок з бярозы.
Такім вар'яцтвам апантаны,
Ня помніць ён Афганістана.
Гадоў у дваццаць юнакі,
Хто без нагі, хто без рукі.
Сыноў Айчыны не мінулі
Варожыя бандытаў кулі.
Заядлы быўшы атэіст,
Рэлігіі - прапагандыст.
Так езьдзіць за айцамі сьледам,
Як тая баба ўсьлед за дзедам.
Закінуў у краіне справы,
Цяпер яму не да дзяржавы,
Што тыя цэны, тыя людзі!
Абы яму хай добра будзе!

**Н.АДАМОВІЧ,**
**г.Салігорск.**

# НАСТАЎ ЧАС ПАСТРАЛЯЦЬ?

Верхнядзьвінскія апэратыўнікі выцягнулі на сьвет Божы з тайнікоў вялікую колькасьць зброі. У мясцовага жыхара, майстра аднаго з прадпрыемстваў знайшоўся ... крупнакалібэрны авіяцыйны кулямёт. Працяг гэтай гісторыі быў праз тры дні й быў больш цікавым. Апэратыўнікі "дакапаліся" й выцягнулі з нэдраў зямлі ... чатыры авіяцыйныя гарматы й дзевяць крупнакалібэрных авіяцыйных кулямётаў. Гэтую зброю ў верасьні мінулага года вынес са складоў боепрыпасаў прапаршчык адной з вайсковых частак. Вынес і закапаў у зямлю. А потым стаў паціхеньку збываць, палічыўшы, што час пастраляць настаў...

**А.КАЗЛОВІЧ.**

# СТРОІ АД ФІРМЫ «ГРОД-СОЎП»

Нядаўна гарадзенская фірма "Грод-соўп" забавязалася бязплатна забясьпечыць шыкоўнымі строямі супрацоўнікаў вабласнога тэлерадыёкамітэта. Свае абавязкі камэрсанты выканалі, перадаўшы тэлевізіёншчыкам касьцюмы коштам па 300 тысячаў кожны.

На жаль, большасьць з іх не адпавядала памерам і густу журналістаў. Падабраць бязплатнае адзеньне змаглі ўсяго некалькі чалавек.

**У.ВАСІЛЕВІЧ.**

# ПАД САЛЮТАВАНЬНЕ ФАНТАНАЎ

Першага ліпеня а 21 гадзіне на пляцы абласнога драматычнага тэатра Горадні адбыўся ўрачысты канцэрт, прысьвечаны 50-ай гадавіне вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Культурнае мэрапрыемства было заплянавана як частка вялікай сьвяточнай імпрэзы, прысьвечанай 50-м угодкам вызваленьня.

На жаль, грандыёзнага фэсту, нягледзячы на тое, што ў ім узялі ўдзел народны ансамбль "Нёман", хор фонду "Бацькаўшчына", хор Саюза палякаў Беларусі "Глос з-над Нёмна", гарадзенская капэла й сьвятары дзьвюх самых буйных канфэсій горада, не адбылося. Гарадзенцы выявілі занадта сьціплую ўвагу да падзеі. З тых некалькіх соцень гледачоў, што прыйшлі, пераважную большасьць складалі юнакі й дзяўчаты ад 15 да 20 гадоў. Ветэранаў, каму быў прысьвечаны канцэрт, ня было бачна.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**
**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА**

# ШТО ЦІ КАГО БАРОНІЦЬ РАЁННАЯ ПРАКУРАТУРА

Адзін з цікавых бакоў выбарчай кампаніі й заключаецца ў тым, што нярэдка ўзьнікае магчымасьць на самай справе даведацца хто ёсьць хто. Новыя думкі ўзьнікаюць аб праваслаўнай царкве й аб Філярэце пасьля сцэнак узаемнага лабызаньня апошняга з Кебічам. Па-іншаму мачынаеш думаць аб акцёры Баталаве, які ў прысутнасьці Кебіча й пад яго рогат спрабаваў разважаць у адной з перадач Расейскага тэлебачаньня аб Чэхаве, Малым тэатры й аб "Даме з сабачкай". Зусім новыя пачуцьці ўзьнікаюць да касманаўта Кавалёнка, які з Масквы, стоячы на фоне баярскіх палат, вучыў кінуты ім народ за каго галасаваць.

Многа цікавага даведаўся я і аб некаторых кіраўніках Горадні ў сувязі з інцыдэнтам, які адбыўся ў галоўным корпусе Мэдыцынскага інстытута, дзе разьмяшчаюцца выбарчыя ўчасткі NN 24 і 25 Ленінскага раёна Горадні. Справа ў тым, што 15 чэрвеня з агітацыйных шчытоў, якія знаходзіліся ў фае інстытута, зьніклі агітацыйныя плякаты й некаторыя іншыя матэрыялы пра Зянона Пазьняка. Па дадзеных сьведкаў, сарваў і зьнішчыў плякаты былы выкладчык кафэдры гісторыі КПСС, а на сёньняшні дзень загадчык інстытуцкага музэю тав. Брытаў І.В.

У Законе аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у артыкуле 28 сказана: "... на тэрыторыі КОЖНАГА ўчастка для галасаваньня ВЫДЗЯЛЯЮЦЦА месцы, якія найбольш наведваюцца грамадзянамі, для разьмяшчэньня выбарчых плякатаў. НЕ ДАПУСКАЕЦЦА зьняцьцё, зрыў, замазваньне, пашкоджаньне выбарчых плякатаў, калі гэтыя плякаты не разьмешчаны ў забароненых месцах".

Таму на наступны дзень я як аглядальнік ад БНФ, зьвярнуўся з адпаведнымі заявамі ў выбарчую камісію Ленінскага раёна й пракуратуру.

А вось адказы прадстаўнікоў дзяржаўных структураў.

Старшыня Ленінскай раённай выбарчай камісіі г.Горадня Я.Жабрун: "Ваша заява ... накіравана для праверкі ў Ленінскі РАУС г.Горадня, якому рэкамэндавана вынікі яе пры неабходнасьці перадаць на разгляд адміністратыўнай камісіі выканкама. Ваша патрабаваньне да раённай выбарчай камісіі вярнуць на месца гэтыя плякаты не ўваходзіць у паўнамоцтвы камісіі".

Сьледчы РАУС па тэлефоне паведаміў, што ім высьветлена, што сапраўды плякаты сарваў і пашкодзіў І.В.Брытаў і што згадаў яму гэта зрабіць рэктар ГДМІ Д.А.Маслакоў.

Пракурор Ленінскага раёна г.Горадня ст. саветнік юстыцыі В.В.Літвінаў: "... Пракуратурай раёна вывучаны матэрыялы праверкі раённага аддзела ўнутраных спраў па пытаньнях, пастаўленых вамі ў заяве. Згодна гэтым матэрыялам праверкі Брытаў не ўчыніў антызаконных дзеяньняў. Падстаў для пракурорскага ўзьдзеяньня ня маецца".

Вось табе й на!..

Застаецца толькі падвесьці вынікі. Што вядома.

Ня трэба глядзець на закон, на патрабаваньні Цэнтральнай выбарчай камісіі. У межах Ленінскага раёна Горадні адпаведнымі праваахоўнымі органамі дазволена зрываць, псаваць і зьнішчаць любыя перадвыбарчыя плякаты. Гэта ня будзе расцэньвацца як "административное правонарушение" альбо як "антызаконныя дзеяньні". Ніякае ўзьдзеяньне вам пагражаць ня будзе, нават калі вы прыйдзеце на тэрыторыю выбарчага ўчастка й сарвеце агітацыйныя матэрыялы са спэцыяльна адведзеных для іх разьмяшчэньня месцаў. Пісьмовыя індульгенцыі на такія дзеяньні знаходзяцца ў аўтара заметкі.

Што не вядома.

Ці такія ж погляды на законнасьць маюць кіраўнікі больш высокіх узроўняў адпаведных праваахоўных органаў?

І, нарэшце, застаецца адкрытым самае галоўнае пытаньне - што ці каго бароніць пракуратура? Адкрытым менавіта таму, што ў выніку яе дзейнасьці безабаронным застаецца тое, дзеля чаго пракуратура й створана - законнасьць.

**А.АСТРОЎСКІ,**
прафэсар каф. біялогіі ГДМІ.

# ВЫНІКІ ТРЭЦЯГА АЎКЦЫЁНУ Ў ГОРАДНІ, 30 ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

## I. Аб'екты прыватызацыі

| N | Назва аб'екта | Агульная плошча | Тэрмін арэнды памяшканьня | Колькасьць удзельнікаў | Пачатковая цана (руб.) | Продажная цана (руб.) | Продажная стартавая цана | Кошт 1 кв.м (руб.) | Пераможца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Крама N 5 падразьдзяленьня горхарчгандлю | 500.00 | 10 гадоў | 6 | 33.880.000 | 1.100.000.000 | 32 | 2.200.000 | Фізычная асоба г.Горадні |
| 2 | Крама N 47 - * - | 277.00 | ва ўласн. | 10 | 149.900.000 | 2.000.000.000 | 13 | 7.220.217 | Прадпрыем. г.Горадні |
| 3 | Крама N 68 - * - | 741.00 | ва ўласн. | 4 | 268.600.000 | 900.000.000 | 3 | 1.224.575 | - * - |
| 4 | Структурнае падразьдзяленьне ГХГ "Валожка" | 48.73 | 10 гадоў | 10 | 833.000 | 750.000.000 | 900 | 15.390.930 | - * - |
| 5 | ДМГП "Навінка" | 464.00 | 10 гадоў | 10 | 28.100.000 | 4.800.000.000 | 171 | 10.344.828 | - * - |
| 6 | Грыль-бар падразьдзяленьня горхарчгандлю | 35.00 | 10 гадоў | 6 | 3.400.000 | 260.000.000 | 76 | 7.428.571 | - * - |
| 7 | Будынак лазьні | 671.00 | ва ўласн. | 2 | 114.600.000 | зьняты з аўкцыёну | - | - | - |
| 8 | Забудова | 49.00 | ва ўласн. | 2 | 3.600.000 | 240.000.000 | 67 | 4.897.959 | - * - |
| Усяго: | | 2.875.73 | | 50 | 602.913.000 | 10.050.000.000 | 180 | 6.956.726 | - |

## II. Іншыя

| N | Найменьне аб'екта | Агульная плошча | Тэрмін арэнды | Колькасьць удзельнікаў | Пачатковая цана (руб.) | Цана продажу | Продажная стартавая цана | Кошт 1 кв.м (руб.) | Пераможца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | Права забудовы | - | - | 2 | 9.500.000 | 11.000.000 | 1,16 | - | Прадпрыем. г.Мозыра |
| 10 | Права арэнды памяшканьня | 248.31 | 10 гадоў | 2 | 5.800.000 | 65.000.000 | 11 | 261.770 | Прадпрыем. г.Горадні |
| УСЯГО: | | 248.31 | - | 4 | 15.300.000 | 76.000.000 | 6 | 261.770 | - |

**НАШ КАМЭНТАР:** 30 чэрвеня аддзел па кіраваньню камунальнай маёмасьцю й прыватызацыяй Гарадзенскага аблвыканкама правёў чарговы аўкцыён па продажу аб'ектаў гарадзкой камунальнай уласнасьці, на якім былі выстаўлены шэсьць прадпрыемстваў, а таксама будынак лазьні, забудова, права на арэнду памяшканьня й праектна-сьметная дакумэнтацыя на кавярню "Бістро".

На аўкцыёне было прададзена 9 лотаў, сярод якіх 5 крамаў, грыль-бар, пабудова, праектна-сьметная дакумэнтацыя з правам забудовы зямельнага надзелу й права на арэнду памяшканьня. Мэрапрыемства знамянальнае тым, што цана трох крамаў перавысіла мільярд рублёў: 1,1 мільярда, 2 мільярда й 4,8 мільярда рублёў. Гэта першы выпадак у правядзеньні аўкцыёну ў Горадні, калі тры аб'екты малой прыватызацыі прынесьлі гарадзкому бюджэту такую суму, якая перавышае прыбытак ад продажу аб'ектаў на папярэднім аўцыёне ў горадзе. Агульная сума прыбытку ад продажу склала 10,126 мільярда рублёў. Цана продажу супраць стартавай павялічылася ў сярэднім у 141 раз. (Мінімальная цана аб'ектаў, што прыватызаваліся, склала 11 мільёнаў рублёў, максімальная - 4,8 мільярда рублёў).

Аўкцыён прайшоў у адкрытай, сумленнай, канкурэнтнай барацьбе прэтэндэнтаў. Высокая продажная цана вышэйназваных аб'ектаў гаворыць аб тым, што працэс малой прыватызацыі ў Горадні прагрэсуе, падрыхтоўваючы глебу дзеля таго, каб прадпрыймальнікі ўжо сёньня змаглі інвэставаць грошы ў разьвіцьцё дадзенага рэгіёну, што ў канчатковым выніку ўплывае на яго эканамічнае й сацыяльнае разьвіцьцё.

Усяго было пададзена 54 заявы на ўдзел у аўкцыёне. Працоўны калектыў аднаго з аб'ектаў, што выстаўляліся, стаў пераможцам. Сяод удзельнікаў і пераможцаў-прадпрыемствы з Горадні й вобласьці, Менску й Мозыра.

Акрамя аб'ектаў, што былі прададзены, на аўкцыён выносіўся будынак лазьні. Ён быў зьняты з аўкцыёну.

Аўкцыён быў арганізаваны й падрыхтаваны аддзелам па ўпраўленьню камунальнай маёмасьцю й прыватызацыяй гарвыканкама ў супрацоўніцтве з Міжнароднай Фінансавай Карпарацыяй (МФК) у рамках Гарадзенскай гарадзкой праграмы прыватызацыі. Чарговы аўкцыён па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасьці адбудзецца 30 ліпеня.

# ГОРАДНЯ БУДУЕЦЦА Ў ШЫРКІ Й ВЫШКІ, АЛЕ ЖЫТЛА ЎСЁ РОЎНА НЕ ХАПАЕ

Днямі ў Гарадзенскім гарвыканкаме для мясцовых журналістаў адбыўся брыфінг.

Найбольшую цікаўнасьць у рэпарцёраў выклікаў выступ галоўнага архітэктара Горадні спадара Лытава. Архітэктар у сваім выступе расказаў аб праблемах забудовы як гістарычнай часткі горада, так і прыватнага сэктару, а таксама ня абыйшоў увагай будаўніцтва новых аб'ектаў і мікрараёнаў.

Сумесна з Міністэрствам культуры архітэктурным аддзелам распрацоўваюцца новыя правілы забудовы гістарычнага цэнтру горада. Правілы дазволяць камэрцыйным структурам і іншым юрыдычным асобам атрымліваць у цэнтры горада цэлыя дамы й рамантаваць за свой кошт з гарантыяй забесьпячэньня пасьля рамонту жыльцоў жылплошчай у гэтым жа доме ці раўназначнай кватэрай у іншым жылым раёне. Са слоў прамоўцы стала вядома, што роў па-за гарвыканкамам хутка будзе ператвораны ў часовую аўтастаянку. Для гэтага меркавалася будаўніцтва мэрыі, але інфляцыя ўнесла свае карэктывы. Былі зроблены захады знайсьці субпадрадчыка сярод замежных фірмаў. На жаль, сярод заможных заходніх інвэстараў ахвотнікаў удзельнічаць у такім праекце не знайшлося. Давялося адмовіцца яшчэ ад аднаго праекту - рэгенэрацыі поймы рачулкі Гараднічанкі. Пра мост, які сымбалізуе дзесяцігоддзе ўзьяднаньня Ўсходняй і Заходняй Беларусі, спадар архітэктар давёў, што ён знаходзіцца ў аварыйным стане. Сродкаў, каб яго аднавіць, ці стварыць новыя шляхі праз Нёман, няма.

Няма заказаў на прамысловае будаўніцтва, а на пабудову аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэньня іх ня было нават з 1992 года. Невядома, у прыватнасьці, калі адчыніць свае дзьверы Палац культуры будаўнікоў, што каля кіно "Ўсход". Работы там замарожаныя. Будаўніцтва ж аб'ектаў мэдыцынскага прызначэньня ўвогуле спынена, не лічачы шпіталю хуткай дапамогі. Апошні колькі ўжо год знаходзіцца ў стадыі заканчэньня. Плянавалі пабудаваць новы корпус у першым гарадзкім шпіталі й стаматалягічную паліклініку каля кінатэатру "Гродна". Гэтыя меркаваньні пакуль што застаюцца толькі марамі. Але ж вельмі актыўна праектуюцца й будуюцца камэрцыйныя банкі. Няблага йдуць справы і з будаўніцтвам і праектаваньнем культурных аб'ектаў, касьцёлаў, малельняў, мячэцяў, сэмінарыяў і г.д. Неблагімі тэмпамі ў Горадні йдзе прыватнае будаўніцтва, аб чым яскрава сьведчаць новыя камяніцы ў раёнах Пярэселка, Паўднёвы, Зарыца ды іншыя. Гэтыя тэмпы вызначаюцца тым, што ёсьць адпаведнае рашэньне гарвыканкаму, якое дазваляе прыватнікам на сваіх надзелах рабіць прыбудоўкі ці ўзводзіць новыя дамы. На думку ўладаў, гэта адпавядае нормам магчымасьці засяленьня.

**В.ГАРОШКА.**



## ВОСЬ ДЫК «ЗАПОРЫ»

Каб захаваць ад злодзеяў тавар, што адпраўляецца па чыгунцы, гарадзенскія камэрсанты пачалі заварваць дзьверы вагонаў электрадугавой зваркай.

І гэта не дае поўнай упэўненасьці, згадаў кар. "Пагоні" камэрсант Вітольд І. Але заварыўшы ў некалькіх месцах дзьверы вагонаў, усё ж адпраўляць груз, а тычыцца гэта ў асноўным вагонаў з харчам, больш надзейна, чым ставіць звычайныя блёмбы.

**Г.Н.**

## ТРАДЫЦЫЯ ЗАХОЎВАЕЦЦА

На спэцыялізаваным ўчастку акцыянэрнага таварыства "Гроднаабутак" пачалі выконваць чарговы заказ для вайскоўцаў беларускага войска: для афіцэраў і прапаршчыкаў - паўчаравікі, для жаўнераў і сяржантаў - чаравікі.

І раней тут выраблялі абутак для радавога й афіцэрскага складу Савецкай Арміі, але гэта трымалася ў сакрэце.

**А.Д.**

## «СХІ» працаўладкоўвае

Намаганьнямі амэрыканскага фонду "Сіці Хоуп Інтэрнэшынал", які разьмяркоўвае гуманітарную дапамогу, што дастаўляецца на Беларусь, створана дадаткова 30 працоўных месцаў для інвалідаў па зроку. Фонд "СХІ" дапамог арганізаваць вытворчасьць фільтруючых дэталяў для Менскага аўтамабільнага й Яраслаўскага маторнага заводаў.

**Д.А.**

## КААПЭРАТЫЎНАЯ ВАРТА

Каб хоць як аберагчы свае гаражы ад узломаў, многія гарадзенскія гаражныя каапэратывы ўстанавілі варту з ліку сваіх сяброў.

Адзін з такіх вартаўнікоў Язэп Паўловіч паведаміў: "У нашым блёку дзесьці каля 200 гаражоў. Вартаваць даводзіцца дзённа й ночна. Але плён ёсьць: дзякуючы варце, у нас за апошні час не адбылося ніводнага рабунка ці ўгону."

**Г.ПЯТРОВІЧ.**

## СЭЗ У БЕРАСЬЦІ?

Канчатковае рашэньне аб стварэньні першай у рэспубліцы свабоднай эканамічнай зоны ў раёне Берасьця ўжо ў які раз тармозіцца Вярхоўным Саветам рэспублікі, але мясцовымі ўладамі зроблены яшчэ адзін рашаючы крок на шляху да пастаўленай мэты.

Берасьцейскі аблвыканкам выдзяліў для стварэньня свабоднай эканамічнай зоны "Брэст" 7359 гэктараў на тэрыторыях Берасьцейскага раёна й горада Берасьце, адначасова зьвярнуўшыся ў Вярхоўны Савет з просьбай зацьвердзіць адпаведныя межы, статус, ільготны рэжым, парадак выключэньня й прадстаўленьня зямельных участкаў, ворганы кіраваньня СЭЗ.

Усе захады робяцца ў парадку выкананьня адпаведнай пастановы Саўміна Беларусі N 100 ад 26 лютага 1992 года.

Задачай ставіцца стварэньне ў СЭЗ вытворчасьцяў у сфэры радыёэлектронікі, машынабудаваньня, лёгкай прамысловасьці, але перш за ўсё перапрацоўчых сельскагаспадарчых галін.

Удалае гэаграфічнае становішча (блізкасьць дзяржмяжы й самога КПП "Казловічы"), знаходжаньне на скрыжаваньні галоўных транспартных магістраляў і напрацаваныя сувязі ў сфэры бізнэсу робяць прывабным і выгадным укладаньне сюды замежнага капіталу.

Для будучых бізнэсмэнаў гэта, перш за ўсё, вялікі рынак збыту як на Захад, так і на Усход.

Замежныя і айчынныя прадпрымальнікі гатовыя ажыцьцяўляць інвэстыцыі ў Берасьцейскую свабодную эканамічную зону, але адсутнасьць адпаведных заканадаўчых актаў і гарантый выклікае ў іх недавер да праводзімых у рэспубліцы рэформаў і скоўвае іх ініцыятыву.

**І.ПЯТРОЎ.**

# СУМЕЖЖА

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Асацыяцыя спартоўскіх журналістаў Польшчы вызначыла лепшага футбаліста апошняга чвэрцьстагоддзя. Пераважнай большасьцю галасоў лепшым названы форвард 60-х Тодар Анёл. На жаль, лаўрэат не дажыў да прызнаньня. Ён памёр летась. У памяць знакамітага спартоўца на яго радзіме ў горадзе Познані зарганізаваны футбольны турнір. Сёлета ў ім удзельнічала 8 маладзёжных клюбаў Польшчы.

***

Завяршыўся чарговы фэстываль польскай песьні ў Аполе. Як ня дзіўна, але фэстываль ня высвеціў новых зорак. На думку спэцыялістаў, для таго, каб фэстываль наноў зьбіраў мацнейшых маладых сьпевакоў, яго неабходна істотна рэфармаваць.

***

Днямі ў Плоцку наладзілі спатканьне жаўнеры-шахцёры, якіх у пэрыяд з 1949 па 1956 годы польскія камуністыя ўлады пад прымусам пасылалі працаваць на шахты й каменаломні.

***

На вугальнай шахце Люкінэ страйкуюць 8 шахцёраў. Страйкаўцы патрабуюць ад адміністрацыі шахты паляпшэньня ўмоў працы, падвышкі заробку на 40-50%, пяцігадзіннага працоўнага дня. У выпадку, калі адміністрацыя шахты не задаволіць патрабаваньняў шахцёраў, іх калегі зарганізуюць пікеты ля міністэрстваў энэргэтыкі, мэталюргіі, вугальнай прамысловасьці, а таксама ля амбасад некаторых эўрапейскіх дзяржаў.

***

Польшча рыхтуецца да сустрэчы з Прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам. Прэзідэнт павінен наведаць краіну напрыканцы бягучага тыдня. Шмат чаго ад візыту чакаюць польскія бізнэсмэны. Найперш, што прэзідэнты Б.Клінтан і Л.Валэнса падпішуць пагадненьне аб ільготных крэдытах для прыватнай вытворчасьці Польшчы, што дазволіць выраўняць адмоўнае гандлёвае сальда паміж дзяржавамі.

***

На Беласточчыне былымі ўдзельнікамі Арміі Краёвай праведзена акцыя пад назовам "Востра Брама". Акоўцы ўшанавалі памяць ля сьвятога крыжа, што ўсталяваны ў гонар палеглых каля мястэчка Шкодзішкі. На горыч удзельнікаў акцыі, такія ж мэрапрыемствы яны не змаглі правесьці ў поўным аб'ёме на Віленшчыне. Як вядома, ўрад Летувы лічыць дзейнасьці АК на сваёй тэрыторыі варожымі й шкоднымі дзяржаўнасьці гэтай краіны.

***

360 дзетак польскага паходжаньня з украінскіх гарадоў Адэсы, Кіева, Данецку, Львова адправіліся адпачываць у дамы адпачынку на гістарычную радзіму. Выдаткі на харчаваньне, культурныя мэрапрыемствы, пераезды ўзяла на сябе ўкраінскай суполка "Успульноты польскэй", штаб-кватэра якой месьціцца ў Львове.

***

З трагэдыі распачаліся спартовыя спаборніцтвы па акрабатычнаму пілатаваньню каля горада Сталёва Воля. Набраўшы вышыню ўсяго 100 мэтраў, на лётнае поле абрынуўся вэрталёт. Экіпаж у складзе 2 чалавек загінуў.

**По матэрыялах польскага друку.**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

З 10 чэрвеня ўступіла ў дзеяньне Палажэньне "Аб зьмяненьнях і ўдакладненьнях у Грамадзянскім Кодэксе". Аўтарскія правы будуць ахоўвацца з гэтага дня згодна палажэньням міжнароднай канвэнцыі ў галіне аховы аўтарскіх правоў.

Аўтары павінны атрымліваць ганарары, калі іх творы выкарыстоўваюцца на канцэртах, у рэстаранах, барах, кафэ, на спартовых мэрапрыемствах, у гатэлях, на кірмашах, у крамах, на транспарце, радыё, тэлебачаньні і ў іншых выпадках. Ліцэнзіі - правы на выкарыстаньне твораў - знаходзяцца ў агенцтве Летувіскай асацыяцыі аўтарскіх правоў.

***

У першым квартале бягучага года Летува гандлявала з 111 дзяржавамі сьвету. Экспартавана тавараў на 1663,285 мільёна літаў, імпартавана - на 2564,97 мільёна.

Найбольш экспарт прыпадае на краіны СНД (50,33 працэнта), найменш - на Аўстралію й Акіянію (0,06 працэнта). Найбольш тавараў экспартавана з Расеі (25,85 працэнта агульнага экспарту), з Беларусі - 9,24 працэнта.

Найбольшы імпарт таксама з краін СНД (57,22 працэнта), у прыватнасьці, з Расеі (44,83 працэнта) і з Беларусі (2,68 працэнта).

Больш за трэць ад агульнага экспарту складае паліва.

***

Па якасьці жыцьця людзей Летува знаходзіцца на 28-м месцы сярод 173 дзяржаў сьвету. Першае месца за Канадай, другое й трэцяе маюць Швэйцарыя й Японія. Сярод краін Усходняй Эўропы найлепш ацэньваецца якасьць жыцьця ў людзей былой Чэхаславакіі (27-ае месца). Апошняе месца - у Гвінэі. Расея ў гэтым сьпісе 34-ая.

***

З першага чэрвеня ў Летуве дзейнічаюць новыя цэны на білеты пасажырскіх цягнікоў. Паездка з Вільні да Масквы ў плацкартным вагоне каштуе 74,59 літа, у купэйным - 119,61, у спальным вагоне першага класа - 250,04 літа.

***

Чуткі аб быццам уступіўшай у дзеяньне адмене візавага рэжыму для грамадзян Беларусі, Расеі й Украіны, што ад'яжджаюць у Летуву, не спраўдзіліся. Візавы рэжым як дзейнічаў, так і дзейнічае для ўсіх грамадзян краін СНД, што прыяжджаюць у Летуву, і наадварот.

***

З 2 чэрвеня ў краіне расцэнкі на лекі, лекавыя рэчывы й вытворчасьць лекаў у аптэках вызначае Міністэрства аховы здароўя. Насельніцтву й установам аховы здароўя, якія ня маюць сваіх аптэк, яны будуць прадавацца па адзіных у рэспубліцы рознічных цэнах па зацьверджаных прэйскурантах. Дырэктар Фармацэўтычнага дэпартамэнта Міністэрства аховы здароўя Л.Ранкаўскас лічыць, што з увядзеньнем новага парадку агульны кошт лекаў зьменшыцца на 10-25 працэнтаў, магчыма таксама павышэньне да 7 працэнтаў на некаторыя лекі.

Дырэктар жа прыватнага мэдыцынскага прадпрыемства "Гайра" В.Шашкоў перакананы, што становішча на рынку лекаў не палепшыцца.

***

У Вільні адбылася ўстаноўчая канфэрэнцыя Сусьветнай асацыяцыі літуаністаў. Ствараецца яна пры Віленскім пэдагагічным унівэрсітэце. Мэта асацыяцыі - аб'ядноўваць дасьледчыкаў-літуаністаў розных вабласьцей, якія працуюць як у Летуве, так і за яе межамі. Ініцыятыўнай групай падрыхтаваны Статут асацыяцыі.

***

Асацыяцыя сталых людзей Летувы першай сярод былых рэспублік Саюза стала сапраўдным членам Міжнароднай фэдэрацыі асацыяцый сталых людзей. Новы статус абавязвае яе пашыраць і паляпшаць дзейнасьць па абароне інтарэсаў састарэлых, што пражываюць у Летуве.

***

Арэнда аўтамабіля ў Летуве значна даражэй, чым у ЗША ці Англіі. Калі ў гэтых краінах новы легкавік можна на суткі атрымаць, напрыклад, за 25 даляраў ці 20 фунтаў адпаведна, то ў Летуве сутачная арэнда "Опель Астра" будзе каштаваць кліенту 89 даляраў плюс 20 даляраў страхоўка. "Вольва" вам прапануюць за 149 даляраў і 26 - страхоўка. "Фольксваген" з вадзіцелем каштуе 9 даляраў у гадзіну. Грамадзяніну Летувы, які жадае ўзяць гэтую машыну без вадзіцеля, трэба мець гарантыйны ліст з банка.

***

Скончылася рэстаўрацыя ўнікальнага помніка гісторыі й архітэктуры пачатку XVII стагоддзя - артылерыйскага бастыёну. Гэтае фартыфікацыйнае збудаваньне ахоўвала й абараняла ад ворагаў саму гарадзкую сьцяну й горад, а зараз у ім створаны новы віленскі музэй. У ім разьмясьцілася экспазыцыя абарончых умацаваньняў і зброі.

**ЭЛЬТА-МГ**



**ВІЛЬНЯ.**

**Фатаграфаваў У. СТРУМІЛА**

# ГАРТАЮЧЫ «КРАЙ СМОЛЕНСКИЙ»

**БЕЛАРУСКАЯ ТЭМА НА СТАРОНКАХ ЧАСОПІСА Ў 1993 ГОДЗЕ**

"Веды. Дабрыня. Культура" - такі дэвіз штомесячнага часопіса "Край Смоленский", які выдаецца ў Смаленску з верасьня 1991 года. У гэтай публікацыі з кароткім аглядам матэрыялаў, прысьвечаных беларускай тэматыцы ў 1993 г., мы знаёмім чытачоў "Пагоні" з часопісам.

Смаленск - адзін з старэйшых гарадоў усходніх славян. У 1993 годзе ён адзначыў сваё 1130-годдзе. Звычайна, калі заходзіць гутарка аб старажытнай гісторыі Смаленшчыны, часта даводзіцца чуць адзін і той жа стандартны выраз: "Смоленск - исконно русская земля". Як правіла, словы гэтыя гучаць павучальна-назідальным тонам, з інтанацыяй, якая адназначна азначае, што пытаньне гэтае даўно ўжо вывучанае, закрытае й не патрабуе ніякіх дыскусій. А калі запытаешся, ці вядома што-небудзь субяседніку аб тым, як утварылася ў XIII ст. Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ), аб тым, што Смаленскае княства ўваходзіла ў яго склад, аб вайне 1492-1494 гадоў, аб іншых захопніцкіх войнах Івана III, на жаль, нічога ці амаль нічога аб гэтым не пачуеш: расейская гістарычная навука за невялікім выключэньнем, а тым больш школьныя й вузаўскія падручнікі Расеі, палявяць й праўдзіва гэтае пытаньне не разглядаюць.

Менавіта пагэтаму вялікую цікаўнасьць у чытачоў часопіса "Край Смоленский", гісторыкаў і краязнаўцаў выклікаў надрукаваны ў падвойным 7-8 нумары артыкул галоўнага інспэктара Камітэта па адукацыі адміністрацыі вобласьці Генадзя Альбертавіча Ластоўскага "Смаленск і Вялікае Княства Літоўскае ў XIII-XVI ст.ст." Аўтар вельмі карэктна сфармуляваў мэту, якую паставіў перад сабой: "... Спроба найбольш наблізіцца да рэальнасьці асьвятліць падзеі аднаго з самых цікавых пэрыядаў з гісторыі Смаленскага краю - пэрыяда, які працягваецца з 2-ой паловы XIII да першай паловы XVI стагоддзя." Г.Ластоўскі, абапіраючыся на багаты гістарычны матэрыял і выкарыстоўваючы ў якасьці аргумэнтаў старажытныя хронікі й летапісы, распавядае чытачу аб пачатковым этапе ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага, аб барацьбе Беларуска-Літоўскай і Маскоўскай дзяржаў за валоданьне Смаленскам, аб граніцах паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам, аб спыненьні існаваньня Смаленскага княства й асабліва падрабязна - аб войнах канца XV - пачатку XVI ст.ст. У артыкуле можна прачытаць пра Міндоўга, Альгерда, Ягайлу, Вітаўта, Жыгімонта I, Івана III й Васіля III і многіх іншых вядомых гістарычных дзеячоў.

Якаў Раманавіч Кошалеў, доктар філалагічных навук, прафэсар Смаленскага пэдінстытута, ў NN 5-12 апублікаваў сваю працу "Легенды и предания Смоленского края". Як тлумачыць аўтар, гэта "устные рассказы о событиях минувших времен", запісаныя ім ў апошнія два дзесяцігоддзі з захаваньнем іх асаблівасьцей. У дасьледаваньнях Я.Р.Кошалева сабрана шмат цікавостак аб паходжаньні назваў гарадоў, мястэчак, вёсак Смаленшчыны.

Многія лінгвісты адзначаюць асаблівую цікаўнасьць вывучэньня говараў тых раёнаў Смаленшчыны, якія тэрытарыяльна мяжуюць з Беларусьсю. Навукоўцамі адзначаецца іх агульнае паходжаньне.

Ганна Глазырына, навуковы супрацоўнік Смаленскага дзяржаўнага музэя-запаведніка, апублікавала артыкул "Издания Ивана Федорова в собрании Смоленского музея", у якім распавядае, як зьбіралася музэйная калекцыя старадрукарскіх кнігаў, як эвакуіраваліся зборы рэдкіх выданьняў у гады Вялікай Айчыннай вайны ў глыбінку Расеі. Прыводзяцца падрабязныя апісаньні захаваўшыхся ў запасьніках "Нового Завета" і "Біблії" (1581 г.), якія надрукаваныя з ініцыятывы князя Канстанціна Астрожскага.

Цікавыя зьвесткі могуць знайсьці тыя чытачы, якія захапляюцца гісторыяй партыі сацыял-рэвалюцыянэраў. У часопісе прыводзяцца зьвесткі аб арганізацыі ў пачатку нашага стагоддзя Віцебскай групы эсэраў і аб выданьні з 1904 г. сумесна з Смаленскім камітэтам партыі уласнай газэты "Рабочий Листок".

Цыкл матэрыялаў прысьвечаны рэпрэсіям 37-га года, сярод якіх - матэрыялы да 100-годдзя Максіма Гарэцкага. І шматшмат іншага, што датычыць беларускай тэматыкі, можна адшукаць у гэтым цікавым смаленскім выданьні.

Вядома, абмежаванасьць газэтнай плошчы "Пагоні" не дазваляе нам абмаляваць поўную карціну беларускай тэмы ў часопісе. Адзінае, што можна паабяцаць чытачу, гэта агляд чарговых нумароў "Края Смоленского" за 1994 год.

**М.ІЛЬКЕВІЧ.**







**Васіль РАГУЛЯ**

# УСПАМІНЫ

## II

### ВЫБАРЫ Ў СОЙМ І СЭНАТ

У перадвыбарчы час можна было склікаць мітынгі нават і пад голым небам. Дастаткова было, каб хто-небудзь за 24 гадзіны перад мітынгам паведаміў на паліцыйны пост аб скліканьні сходу ды дзе й калі ён адбудзецца. Кіраўнік мітынгу адказваў за ягоны парадак і меў права даць голас кожнаму грамадзяніну, які хацеў гаварыць. Прадстаўнік паліцыі запісваў зьмест гутаркі прамоўцаў, не мяшаючыся ў спрэчкі. Свабода слова была шырокая. Ня можна было гаварыць супраць польскай дзяржаўнасьці. У падобных выпадках умешвалася пракуратура й цягнула агітатара да адказнасьці.

У Наваградку адзін з прамоўцаў - Курчэйка,- гаворачы за лісту Нацыянальных Меншасьцяў, скончыў сваю прамову клічам: "Далоў Польшчу!", за што й быў паклїканы да адказнасьці паводле славутай 129 стацьці Расейскага Крымінальнага Кадэксу, прынятага тады ў Польшчы.

Аднак чалавек, які ведаў абраз думак і настрояў масы, мог спрытна й бескарана працягнуць кантрабанду недазволенага.

Усіх партыяў, што выступалі на выбарах, было больш за 30. На нашай тэрыторыі канкуравалі: N 1 - Народная Дэмакратыя, N 2 - Польская Партыя Сацыялістаў, N 3 - Польская Партыя "Wyzwolenie", N 5 - Камуністы, N 16 - Нацыянальныя Меншасьці, N 22 - Дзяржаўнае Аб'яднаньне на Крэсах (Panstwowe Zjednoczenie na Kresach).

Галоўныя канкурэнтамі ў Наваградчыне былі N 3 і N 16, а ў Піншчыне - N 2 і N 16.

### ПАЧАТАК ВЫБАРЧАЕ КАМПАНІІ

Памятаю дажджысты вечар канца жніўня ці пачатку верасьня 1922 году. Прыехаўшы з поля, я вячэраў. Кроплі дажджу цабанілі па шыбах. Я пачуў ледзь чутны стук у вакно. Выйшаўшы на ганак, я сутыкнуўся ў поцемках за сваім аднавяскоўцам Тамашом Уласэвічам, які, увайшоўшы за мною ў кухню, палахліва, паўшэптам, сказаў:

- Цімафеевіч, відаць, прыйдуць расейцы.

- Чаму?

- Сёньня на рынку гаварыў прамоўца!

- Што ж ён сказаў?

- Казаў, што беларусам цяжка жыць, што у нас дрэнныя парадкі, няма школаў, што настаўніцамі працуюць ксяндзоўскія кухаркі й шмат чаго іншага.

Я яму растлумачыў, што гэта пачалася выбарчая кампанія. Як выявілася, гаварыў кандыдат у паслы ад партыі "Wyzwolenie" Шакун. Пасьля гэтага нейкі Кінчук, украінец, па асабістых запросінах сабраў сход у воласьці й агітаваў галасаваць за лісту N 22. Мы ўсе былі запалоханыя, і ніхто не адважыўся забраць голас. Я таксама пабойваўся, каб тут не была пастаўлена на нас пастка. Усе маўчалі й глядзелі ў мой бок. Урэшце, перамогшы нутраны страх, я ў вельмі асьцярожны спосаб выказаў думку, што цяпер мы ня зможам сказаць, за каго мы будзем галасаваць, таму што ня ведаем ані партыяў, ані паасобных выдатных асобаў, за якіх нас просяць галасаваць. На гэтым сход і скончыўся. Ля выхаду Кінчук падыйшоў да мяне й сказаў: "Пане Рагуля, вы будзеце выбраны на пасла".

Пачатак у N 21.

Мінула некалькі дзён. Усюды ціха, ніякае агітацыі. Нарэшце, у адзін верасьнёвы дзень, калі я ссыпаў у паграб бульбу, прыехаў да мяне настаўнік з нашага мястэчка Л.Буйвал і запрапанаваў мне ехаць у суседняе мястэчка Нягневічы на канфэрэнцыю чатырох валасьцяў: Шчарсоўскай, Нягневіцкай, Любчанскай і Гарадэчанскай. На канфэрэнцыі мелася вырашыцца пытаньне выбару дэлегата на беларускі зьезд у Баранавічах. Я шчыра адмаўляўся, матывуючы адсутнасьцю часу. Тады Буйвал сказаў: "Ніхто ня можа паехаць, апрача цябе. Ты ня маеш маральнага права адмовіцца". Сусед П.Кайдак, таксама настаўнік, настойліва прасіў ехаць і абяцаў, што ён з сястрою і братам памогуць капаць бульбу. Я згадзіўся. Гропы на падарожжа ў Нягневічы, а пасьля ў Баранавічы і назад, даў мне старшыня кааперэтывы ў Любчы настаўнік Гірыс.

Канфэрэнцыя ў Нягневічах адбылася ў памяшканьні А.Орсы, пры дзейным удзеле студэнта Амельяновіча, які пасьля стаўся рэдактарам беларускай выбарчай газэты "Будучыня" ці "Бацькаўшчына", добра ня памятаю. У будучыні, калі пракуратура прыцягнула яго да судовай адказнасьці за артыкулы ў газэце, ён эміграваў у Чэхію. Убачыўшы гэтага Амельяновіча ў польскай студэнцкай шапцы, я паставіўся да яго з недаверам, падазраючы ў ім паляка. Прапанову ехаць у Баранавічы ў якасьці дэлегата я адразу прыняў; я сказаў тое, што думаў: "Я - русафіл і, можа, на гэта не надаюся. Вам, магчыма, патрэбны палянафіл?" Мне адказалі: "На гэта нам такога і трэба, як вы". Пасьля гэтага я згадзіўся ехаць на Баранавіцкі зьезд. У той час я сапраўды стаяў на пункце гледжаньня фэдэрацыі з Расеяй, адхіляючы ідэю незалежнасьці як падсунутую, паводле майго тагачаснага перакананьня, палякамі.

У жаўнерскай шапцы і шынялі, у скураных лашчэх я і зьявіўся на зьезд. Некаторыя гаворачь і сёньня, што гэта была дэмагагічная дэкарацыя. Я сам саромеўся гэтага абутку; выступаючы на мітынгах, стоячы на сялянскім возе, я хаваў лапці ў гарохавіньні. Я мушу сьцьвердзіць, што гэта ня быў маскарад, а скрайная неабходнасьць, таму што мая зямля нічога яшчэ не давала, бо ляжала дзірваном.

Зьезд адчыніўся ў пажарным дэпо ў Баранавічах. Зьехаліся дэлегаты ад усіх пяці паветаў акругі: Наваградзкага, Слонімскага, Стаўпецкага, Нясьвіскага й Баранавіцкага. Усіх дэлегатаў было каля 40: настаўнікі, фэльчары й простыя сяляне. Адразу выявіліся дзьве плыні: за Блёк Нацыянальных Меншасьцяў, і другая - за "Дзяржаўнае Аб'яднаньне на Крэсах". Першую рэпрэзэнтаваў сябра Віленскага Цэнтральнага Камітэту М.Кахановіч, а другую - ведамы "гэнэрал" Булак-Балаховіч, "доктар", што ня скончыў Вайсковай Мэдыцынскай Акадэміі - Паўлюкевіч, і нейкі інжэнер, ні паляк, ні беларус, ён, аднак, выдатна гутарыў па-беларуску.

Спрэчкі прынялі адразу самую бурлівую форму. Прыхільнікі Блёку выказаліся вельмі асьцярожна. Іх праціўнікі ж пачалі з высокіх нотаў. Каб даць дыскусіі спакайнейшы ход, я запрапанаваў, каб з кожнай групы выказаліся трох за Блёк і трох за "Дзяржаўнае Аб'яднаньне на Крэсах". Запісаліся гаварыць ад Блёку Кахановіч і настаўнік Наваградзкай Беларускай Гімназіі Цеханоўскі. Трэцяга не было. Пасьля некаторага хістаньня запісаўся і я. З процілеглага боку запісаліся: Булак-Балаховіч, Паўлюкевіч і інжынер. Першыя гаварылі мы за Блёк у парадку запісу. Калі я скончыў, на месцах нашых праціўнікаў падняўся страшэнны гоман. Пачуліся крыкі: "Бальшавікі! Пастраляць іх!" Булак-Балаховіч і Паўлюкевіч павыцягвалі з кішэняў рэвальвэры. На зьезьдзе ўзьнікла паніка. Усе, як статак авечак, кінуліся да выхаду. Толькі на двары нам удалося дагаварыцца сабрацца на заўтра, каб скласьці лісту кандыдатаў у дэпутаты. Старшынямі А.Назарэўскага было знойдзена адпаведнае памяшканьне, дзе й быў складзены праект лісты нашых кандыдатаў: у Сэнат - М.Кахановіч і доктар Кізевіч; у Сойм - Ф.Ярэміч, М.Кахановіч, Ю.Сабалеўскі, настаўнік Шнаркевіч і адзін малады інжынер з Міра (прозьвішча не памятаю). Сваю кандыдатуру я станоўча адхіляў, баючыся, што пры сваім гарачым тэмпэраменце я ўзброю супраць сябе мясцовых палякаў, асабліва асаднікаў, якія маглі б пры нагодзе мяне застрэліць. Пасьля доўгага ўгаворваньня я ўмоўна згадзіўся, просячы адкласьці гэтае пытаньне да абмеркаваньня ў наваградзкім камітэце. На гэта прысутныя згадзіліся.

Назаўтра мы сабраліся ў габінэце старшыні наваградзкага камітэту - адваката Друцкага-Падбярэскага. Прысутны быў таксама і М.Кахановіч. Я прасіў ня ставіць мае кандыдатуры, матывуючы тым, што я ня маю дастатковае эрудыцыі для будучай працы. Гутаркі цягнуліся ўсю доўгую верасьнёўскую ноч. Мой апошні аргумэнт быў: "Пашкадуйце маіх дзяцей і'ня стаўце мае кандыдатуры. Мяне могуць забіць". Усім нам было ведама, што ўкраінец, кандыдат у паслы Тэрдохліб быў забіты ў сваёй хаце стрэлам праз вакно. Урэшце, пахадзіўшы па габінэце, я сказаў: "Добра, я згаджаюся. Толькі стаўлю другім кандыдатам акругі ўмову: я прыхільнік ангельскай сыстэмы, дзе кандыдаты ў дэпутаты аб'яжджаюць сваю акругу й выступаюць перад выбаршчыкамі з праграмнымі прамовамі. Я люблю цяглу, але ня люблю падпірацъ" - разумеючы пад гэтым сваё трэцяе месца. Выясьненьне Кахановіча, што фактычна я займу другое месца, бо Ф.Ярэміч возьме, магчыма, першае месца ў Піншчыне, я прыняў да ведама. Я баяўся ўпрагацца ў адзін воз з няведамымі мне людзьмі, што незнаёмыя мне асабіста Кахановіч і Ярэміч, якіх я ніколі й нідзе не сустракаў, могуць мяне скампраміатаваць перад выбаршчыкамі неадпаведнай тактыкай у Сойме і маральнымі паводзінамі вонкі.

Мая кандыдатура прыйшлася не да смаку віленчукам, асабліва ж А.Луцкевічу (ён лічыў мяне заядлым масклём). Толькі безнадзейнае трэцяе месца, паводля іх меркаваньняў, іх супакойвала. Зьняць маю кандыдатуру яны не маглі таму, што ліста кандыдатаў складалася ў Наваградку, а подпісы далі выбаршчыкі мае вёскі.

### ФІНАНСАВАНЬНЕ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ

Самым цяжкім пытаньнем для разьвязаньня, што паўстала перад віленскім камітэтам, было пытаньне фінансаў. Наш выбаршчык ня мог даць нічога. Краіна была зьнішчана, а сялянства значна зьбяднеўшы. У некаторых раёнах, дзе яшчэ нядаўна праходзіў фронт, людзі даслоўна памiралі з голаду. Чалавек, што паміраў, прасіў: "Дайце мне кавалачак хлеба, і я буду жыць". Сваіх капіталістаў і багатых абшарнікаў не было. Сродкі, аднак, трэба было знайсьці. Тут нам і памагла ліста дзяржаўная (Panstwowa), якая, як я ўжо сказаў, выклікала стварэньне Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. Беларусы і ўкраінцы давалі свае галасы, а немцы й жыды, апрача галасоў, давалі на выбары й грошы. За якую цану атрымалі гэта беларусы, аб гэтым ведае Ф.Ярэміч і другія сябры віленскага камітэту. Думаю, што гэтая цана была ня менш двух месцаў: адно - немцам і адно - жыдам. Сам камітэт не палічыў за патрэбнае даць справаздачу. Акруговыя камітэты атрымалі вельмі мала, а кандыдаты, для выезду на агітацыю, яшчэ менш. На падарожжы й харчаваньне ў час агітацыі я асабіста атрымаў ад Кахановіча 4.000 польскіх марак. Каб усе зразумелі, якая была сапраўдная вартасьць гэтых 4.000, раскажу наступны выпадак: я прыйшоў у Мір, маючы ў кішэні 1.000 марак. Была восеньская раніца. Я зайшоў у шынок, выпіў чарку гарэлкі, зьеў селядца й выпіў шклянку гарбаты. За ўсю гэтую "пачостку" я заплаціў 1.000 марак. Мяне выбавіў з цяжкаватага становішча мірскі жыдоўскі камітэт, які на просьбу беларусаў даў мне на дарогу 4.000 польскіх марак. Вось з якімі сродкамі давялося мне пешкі бегаць па Наваградчыне.

### ПЕРАДВЫБАРЧАЯ АГІТАЦЫЯ

Вярнуўшыся з Наваградка ў базарны дзень, я ўладзіў перадвыбарчы сход на плошчы ў родным мястэчку - Любчы. Мне давялося пярэчыць студэнту-паляку, нейкаму Забелла. Тут я й зразумеў, што не сьвятыя гаршкі лепяць: натоўп выступіў на маім баку. Першая перамога ўзьняла мяне на духу. Нашая боязьнь, што сялянства будзе супроць блёку з жыдамі, выявілася безпадстаўнаю. Сяляне глядзелі цьвяроза на гэты саюз, як на скрайнюю неабходнасьць. На закід аднаго паляка, што беларусы ідуць з жыдамі, адзін беларускі селянін на рынку ў Стоўбцах адказаў: "Паночку, што ж рабіць? Калі нападзе на мяне кароста, дык каб пазбавіцца яе, мажуся дзёгцем і лезу ў печ".

Я зразумеў, што для схіленьня нашага выбаршчыка на свой бок патрэбна вялікая частка дэмагогіі, памятаючы аднachасова, што пад нагамі могуць апынуцца каменьні ў выглядзе польскай дзяржаўнасьці. Гэтыя каменьні трэба абыходзіць спрытна, каб не парушыць закону й даць поўнае задавальненьне ўтоеным жаданьням выбаршчыка-беларуса. Доказам таго, што мне гэта ўдавалася, няхай будуць словы пракурора, які, абвінавачваючы мяне ў 1928 г., сказаў: "Высокі Суд! Маем перад сабою эквілібрыста й жанглёра слова, які ў легальныя формы ўкладаў нелегальныя думкі". Польская Партыя "Wyzwolenie", за плячыма якой стаяў агент дэфэнзывы Ваевудзкі, карысталася бальшавіцкімі лёзунгамі, чаго мы, беларусы, не маглі сабе дазволіць з палітычных меркаваньняў. Вызваленцы гаварылі, што беларускія правадыры запрадаліся жыдоўскім і нямецкім фабрыкантам, купцам і банкірам, што беларускіх ксяндзоў няма, што яны, вызваленцы, вядуць клясавае змаганьне супроць жыдоўскай і нямецкай буржуазіі, супроць абшарнікаў і кулакоў. Усё на адзін і той самы лад.

Нам заставалася іграць галоўным чынам на дзьвюх струнах: нацыянальнай і эканамічнай. Першая была ў той час слабая, другая - моцная. Мы націскалі на адсутнасьць беларускіх школаў і на польскае вайсковае асадніцтва. Гэты другі выбарчы конік быў вельмі карысны. Ён вырашыў пытаньне галасаваньня сялянскай масы на нашую карысьць. Пярэчачы вызваленцам, я гаварыў, што яны, аддаўшы ў Устаўдачым Сойме свае галасы на карысьць асадніцтва, аграбілі наш народ, а цяпер, прыйшоўшы на нашыя галасы, праліваюць кракадзілавы сьлёзы (выясьняючы выбаршчыкам, што значыць "кракадзілавы сьлёзы"). Я гаварыў: "Нашую зямельку аддалі асаднікам, а гэта ж нашая зямля, беларуская. Нашыя продкі апрацавалі яе для гаспадаркі, на ёй іх хвасталі розгамі; яна прасякнута потам, сьлязамі й кроўю нашых дзядоў і прадзедаў. Вазьміце жменю гэтай зямлі, - казаў я, - моцна сьцісьніце, і з яе пацячэ беларуская кроў і сьлёзы; галасуйце за сваю лісту N 16. Калі выберацe вызваленцаў, дык вы іх ня ўгледзіце да новых выбараў. Выбраўшы сваіх людзей (я выясьняў, хто стаіць на лісьце N 16), вы будзеце мець магчымасьць бачыць іх дома, сярод вас, і калі яны здрадзяць сваім цяперашнім абяцаньням, будзеце мець магчымасьць хоць плюнуць ім у вочы!" Усюды я атрымоўваў перамогу над сваімі праціўнікамі - вызваленцамі (N 3), эндэкамі (N 2) і пілсудчыкамі (N 22).

(Працяг будзе).

